


## Адзін куст бульбы дае два ўраджаі

**У многіх агароднікаў адцвіла бульба. У асноўным ранняя ці сярэдняранняя. Шмат дзе яе капаюць. Ураджай не вельмі, бо сёлета надвор'е сухое. А паліць, як трэба, часу не хапае...**

**На кожным кусце застаецца некалькі каліў бульбы з арэх. Яе не зварыш, а выкідваць шкада. Ці можна штонебудзь зрабіць, пытаюцца чытачы.**

І шматлікія сябры газеты падказваюць, што выйсце ёсць! Патрэбна яшчэ раз пасадзіць у зямлю гэты ж самы корч бульбы. Праз два тыдні маленькія бульбіны падрастуць, стануць важкімі.

А робяць так. Куст перад копкай аглядаюць. Выдаляецца пажоўклае і ўвогуле, хворае лісце. Зялёны конус апрацоўваецца настоем попелу і траў (пазакаранёвая падкормка), добра паліваецца.

На наступны дзень падкопваюць рыдлёўкай і выбіраюць усе буйныя бульбіны. Ямку паглыбляюць, убіваюць калок, ставяць куст і напалавіну прысыпаюць зямлёй. Моцна паліваюць. Усмакталася вада — прысыпаюць яшчэ, паліваюць слабым настоем каравяку і попелу. Канчаткова акучваюць.

Вось і ўсё. 14 дзён чакаць. Паліваць і падкормліваць больш не трэба. Калі сцябло пажоўкла, капаць. Вы абавязкова знімеце яшчэ тры-пяць добрых бульбін.

Здараецца, што расліна занудзіцца і праз тры дні зусім засохне. Такое наглядаецца, калі перасаджвалі хворую расліну ці ў гарачы дзень. Вынік дадуць здаровыя кусты. Вядома ж, выкопваць іх пад вечар, калі настане больш золкая пара.

## Сеем... кроп, садзім... цыбулю

**Чытач здзівіцца: лета пераваліла на другую палавіну, а мы прапагандуем сяўбу ды пасадкі. Але паспеюць да стала не толькі араматычныя культуры. Дадуць, напрыклад, ураджай радыс, шпінат, шмат чаго іншага.**

Адна асаблівасць усё ж існуе. Насенне набухае вельмі доўга. Бывае, да месяца. Калі ўжо там расці? Таму ўсё трэба намочваць, узбагачаць элементамі сілкавання (патрымаць суткі ў растворы попелу — паўшклянкі на літр вады). Пасля насенне загарнуць у вільготную анучу і змясціць у цёплае месца. Сачыць, каб анучка не стала сухой.

Як толькі з'явяцца першыя парасткі, высяваць на градку. Месца ў гэты час будзе нямала, бо неўзабаве знімем цыбулю і часнок, недзе выкапаем бульбу. Градкі нанава перакапаць, даўшы ўгнаенні. Зрабіць радкі, абавязкова іх добра паліць. І высяваць толькі ў вільготную глебу. Гэта добра рабіць пасля дажджу. Пасевы замульчыраваць.

А як быць з цыбуляй? Цыбулю таксама прарошчваць. Пакладзіце яе донцамі на мокрую анучку ці лямец. Праз два-тры дні з'явяцца першыя белыя карані. Гэта сігнал для высадкі. Зноў паліваем, калі няма дажджу. Садзім, каб зверху былі бачныя сухія лісточкі шыйкі. Пальём з лейкі.

Гэта цыбуля не выспее. Яна не паспее стварыць нармальную цыбуліну. Высадкі робім толькі для сакавітага, вітаміннага пяра. А яно будзе цудоўным!

## Падкралася фітафтора

**Практыкай даказана, што ў сухое лета розныя грыбковыя захворванні развіваюцца слаба. Сёлетняе лета якраз такое. І ўсё ж шмат дзе адзначана наступаючая хваля фітафтароза. Гэта вельмі згубная хвароба для памідораў і бульбы. Калі даць ёй разгуляцца, вынішчыць да паловы ўраджаю. А недзе (асабліва на памідорных градках) і збіраць не будзе чаго.**

Праяўляецца захворванне аднолькава. На ніжніх лісточках бульбы з'яўляюцца цёмна-карычневыя плямы. Асабліва шчыльна яны сядзяць на кончыках ліцяў. Плямы хутка растуць, нібы расплываюцца. Паражаецца ліст, потым галінка, уся расліна. Дастае нават сцябло, якое чарнее. Раніцай, калі гуляе раса, на ніжніх баках лістоў відаць слабыя белыя налёты. Гэта хвароба набыла новы змест — пладзяцца споры грыбоў.

Трапіўшы на плод памідора, споры хутка «прыжываюцца». Нечакана вы заўважаеце тут і там бурыя расплыўчатыя плямы пад скуркай. Зняць іх немагчыма. Прайшоўшы даволі ёмістую абалонку, фітафтора без перашкод дабіраецца да цэнтра. Неўзабаве ўвесь плод становіцца «брудным».

Бульбяныя градкі неабходна апрацоўваць прэпаратамі, якія найбольш эфектыўныя супраць гэтай хваробы. Усё, што ўтрымлівае медзь, дае карысць. Гэта бардоская сумесь, медны купарвас, хлорвокіс медзі, паліхом, іншыя. У гаспадарчых крамах вам прапануюць патрэбнае. Варта толькі памятаць, што медзь вельмі дрэнна разыходзіцца ў халоднай вадзе. Таму абавязковы падагрэў. Недзе выкарыстоўваюць фундазол (20 г на вядро). Гэты прэпарат і ў халоднай вадзе раствараецца добра.

Эфект дае такі сродак. 20 грамаў меднага купарвасу разводзяць у 5 літрах цёплай ці гарачай вады. Побач разбаўляюць 200 грамаў мыла. Растворы аб'ядноўваюць, даводзяць да 10 літраў і распыляльнікам наносяць на расліны. Распыленне як найдрабнейшае. Вадзяны пыл пакрывае ўсё — і лісце, і сцябліны, і зямлю. З лісця прэпарат капае. Праз дзесяцьдванаццаць дзён аперацыю паўтарыць.

Хворы ліст усё роўна не будзе вылечаны. Таму яго неабходна абарваць і спаліць.

Плады памідораў, якія захварэлі, можна выратаваць. Для гэтага іх зняць, змясціць у ёмістасць з вадой (тэмпература +60 градусаў). Дзве мінуты патрымаць у такой «лазні», дастаць, даць абсохнуць і пакласці на даспяванне.

Памідоры, якія ўжо нясуць на сабе плямы фітафторы, апрацоўваць асобна. Тэмпература для іх—70 градусаў. І «купанне» — да трох мінут. Пад уздзеяннем высокай тэмпературы хворае месца з часам стане бы губка. Але плод даспее добра.

## У рабоце слізнякі

Гэтыя слізкія, цёмныя, здаецца, самыя ціхаходныя з усіх шкоднікаў, прыносяць непапраўную бяду. «Селяцца» на сырых гліністых ці суглiністых глебах, на чарназёмах. На любым агародзе іх безліч. Толькі гэтага шкодніка не бачым, бо на досвітку ён хаваецца ў засені лісточкаў, камкоў глебы, пад камякі, дошкі, карчы. Шкодзіць капусце, бручцы, моркве, бульбе, перцам, баклажанам, фасолі, агуркам, буракам, кропу і іншым культурам. Яны надзвычай пражэрлівыя: ядуць лісце (на капусце застаюцца дзіркі), сцяблінкі, недзе і карэнні. Часта дабіраюцца да пладоў.

Барацьбу са слізнякамі пачынаюць з абкошвання травы ў садзе, ля дарожак, на абочынах. Гэта месцы, дзе драпежнікі збіраюцца на свае «лятучкі». Мэтазгодна сюды заманіць жабу. Яна знішчае гэтых шкоднікаў дзесяткамі. Яшчэ можна раскласці дошчачкі, нейкую цэглу ці кавалачкі шыферу. Удзень іх падняць, а слізнякоў, якія хаваюцца там, знішчыць.

З хімічных сродкаў прымяняюць жалезны купарвас (1 кг на 10 літраў), хлорку (10 г) і попел (5 г) і гэтай сумессю «пудраць» адзін кв. метр зямлі. Станоўчы вынік дае калійная соль. Адзін кілаграм яе разводзяць у 10-літровым вядры і апрацоўваюць (венічкам) капусту.

Слізнякі — стварэнне кволае, далікатнае. Вельмі баяцца розных уколаў. Вось і раскладзіце пад раслінамі (скажам, капустай) іголку. І «злодзей» не пройдзе!

## Дрэвы просяць піць

**Сухое надвор'е адбіваецца на самаадчуванні яблынь, груш, вішань, сліў, парэчак, агрэсту, іншых дрэў і кустоў. Ліст мяльчэе, а плады занадта хутка спрабуюць выспець.**

Паліў сёння — галоўнае. Выкапайце на адлегласці двух-трох метраў ад ствала яблыні ямкі ў два штыкі рыдлёўкі (не сячыце карэньчыкі) і нанач залівайце ў два прыёмы чатырыпяць вёдраў вады.

Можна наладзіць і падкормку. Падыдуць настоі гною, попелу, траў, мінеральных угнаенняў. Іх даюць у той жа прапорцыі, што і для падкормкі іншых раслін: на бочку вады — вядро-паўтара памёту, два вядры каравяку ці конскага калу, абавязкова вядро попелу.

Мы адзначалі, што садовыя расліны, асабліва яблыня і груша, вельмі пакутуюць ад недахвату азоту. Вось у такой бочцы і растворым дадаткова шклянку мачавіны. Канчаткова бочка вады ў 200 літраў будзе ўтрымліваць: вядро попелу, шклянку мачавіны, два вядры каравяку, «чай» з траў лебяды, лубіну, зоркаўкі, крапівы, лісця шыпшыны, іншых культур.

Праз дзесяць дзён, калі не было дажджоў, паліў паўтарыць, але ўжо без падкормкі.

Дозы паліву сліў, вішань і парэчак некалькі меншыя.

Выкапаныя ямкі можна і не засыпаць. У іх змясціць гной ці траву. Вада сама будзе вымываць карысныя для пладовых дрэў рэчывы ў ніжэйшыя слаі глебы. Карані, бы заўзятыя лаўцы, выкарыстаюць «скарб» найлепшым чынам.

**Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

**ДА ВЕДАМА ТЭЛЕГЛЕДАЧОЎ І РАДЫЁСЛУХАЧОЎ МІНСКА І МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ**

Перадачы па ўсіх тэлевізійных праграмах, а таксама па ультрахвалевых радыёстанцыях пачынаюцца, як звычайна, з раніцы.

### 15 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** Маст. фільм «Крыж міласэрнасці». 2-я серыя.
**10.10.** «Вобраз». Літаратурны часопіс.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Мультфільмы.
**17.20.** «Калыска чатырох чараўніц». Прэм'ера тэлеспектакля па п'есе У. Караткевіча. Да 110-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы.
**18.00.** Дак. фільмы.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Наш каментарый. «Садружнасць па-брытанску?»
**19.15.** «Пілігрым» у гасцях у «Ветра вандраванняў».
**20.00.** Фільм-канцэрт.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Маст. фільм «Крыж міласэрнасці». 3-я серыя.
**22.35.** НІКа.
**22.50.** Рэпартаж з міжнароднага фестывалю «Парад дыксілендаў-92».

**І канал. Астанкіна**

**8.20.** «Багатыя таксама плачуць»
**9.50.** «Мы рэха адно аднаго».
**10.10.** Дак. фільм.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**13.10.** Тэлемікст.
**13.55.** Блакнот.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Сёння і тады.
**14.50.** «Прычына». Маст. фільм.
**15.55.** Фільм — дзецям. «Як я быў вундэркіндам». 2-я серыя.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Студыя «Палітыка» паказвае.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**18.45.** Гісторыі, расказаныя ў Сочы.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Маст. фільм «Кватэра».
**21.10.** Чорная скрыня.
**21.50.** Маст. фільм «Візіт нунцыя» з цыкла «Прыгоды прыватнага сышчыка». 2-я серыя.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Лімпапо.
**23.55.** Канцэрт Маскоўскага камернага хору.
**0.55.** «Прычына». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

**9.10.** «Вячэрні салон» у ранішнім эфіры.
**11.10.** Сялянскае пытанне.
**11.30.** «Гракі». Маст. фільм.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Пра бізнес і пра сябе.
**15.30.** «Надзвычайнае здарэнне».
**15.55.** Хрысціянская праграма.
**16.40.** Т. Ін. Ка.
**16.55.** «Далёкі Усход».
**17.40.** Тварам да Расіі.
**17.55.** Тыдзень тэлевізійнага кіно ЗША. «Як вырасціць бізнес».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Тэлегульня «Лога».
**19.55.** Фестываль «Красная плошча запрашае».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.35.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**23.05.** Лясы.

### 16 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** Маст. фільм «Крыж міласэрнасці». 3-я серыя.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Экран дзіцячага фільма. «Палёт у краіну пачвараў».
**17.45.** «Рамэо і Юлія». Фільм-канцэрт.
**18.00.** Дак. фільм «Гімназісты».
**18.50.** «Малахіт». Кінанарыс.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Сустрэча з саксафаністкай М. Шапашнікавай.
**19.55.** Чарнобыль: праграма дзеянняў. Перадача з Гомеля.
**20.25.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Бізнес-клуб «Партнёр» прапануе...
**21.30.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...
**23.50.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** Ранішняя гімнастыка.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**9.50.** Мультфільмы.
**10.25.** Дак. фільм «Заўтра будзе добры дзень».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**13.10.** Тэлемікст.
**13.55.** Блакнот.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** Гэта было... было...
**14.45.** «Прычына». Маст. фільм.
**15.50.** Мультфільмы.
**16.20.** Дзіцячы музычны клуб.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.05.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**18.50.** «Мы помнім вашы твары». Л. Маркаў.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Маст. фільм «Кватэра».
**21.05.** Студыя «Палітыка» паказвае.
**21.35.** Фермата.
**21.55.** Маст. фільм «Надзвычайнае становішча» з цыкла «Прыгоды прыватнага сышчыка».
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Дзевятка.
**23.55.** Фільм-канцэрт.
**0.30.** «Прычына». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**7.50.** Тры кругі алмазнага «раю».
**8.35.** Вольны час. «Калекцыянер».
**8.50.** «Прыгоды Нукі». Маст. фільм.
**10.05.** Мультфільм.
**10.25.** Пілігрым. Расійскае бюро падарожжаў.
**11.10.** Сялянскае пытанне.
**11.30.** «Веснавы прызыў». Маст. фільм.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Дак. панарама. «Даліна мрояў».
**16.00.** Расія і свет.
**16.45.** Т.Ін.Ка.
**17.00.** Бізнес і палітыка.
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Тыдзень тэлевізійнага кіно ЗША. «Ах, якая любоў!»
**20.20.** Цырк на сцэне. «Марафон дурняў».
**20.30.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**21.00.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.35.** Пятае кола. Працяг.

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**«Стабільнасць цяжка стварыць, але лёгка разбурыць»** — запіс гутаркі Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча па «прамой лініі» з чытачамі «СБ».

**«Не абысціся «фізікам» без «лірыкі»** — працяг дыскусіі аб выкладанні ў ВНУ гуманітарных дысцыплін.

Да надыходзячага 65-годдзя «СБ» прымеркавана падборка пісьмаў чытачоў.

**«Зялёная аптэка»** — парады традыцыйнай і народнай медыцыны.

**«Падзея на ўзроўні сенсацыі»** — расказ пра тое, як у Барысаве ствараецца вытворчасць апаратаў «штучная нырка».

**Спартыўная і міжнародная інфармацыя.**

**Навіны, рэклама.**



## НАВІНЫ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА «БЕЛАГРАПРАМБІРЖА»




**НА ТАРГАХ У ПЯТНІЦУ, 10 ЛІПЕНЯ 1992 ГОДА, БЫЛО ЗАРЭГІСТРАВАНА 36 ЗДЗЕЛАК НА СУМУ 5,5 МІЛЬЁНА РУБЛЁЎ.**

Сярод прададзеных і купленых тавараў:

| Назва тавару | Колькасць | Адзінка вымярэння | Цана за адзінку вымярэння (рублёў) |
|---|---|---|---|
| Збожжа насеннае і фуражнае | 215 | тона | 7.000—10.000 |
| Насенне рэдзькі алейнай | 8 | тона | 8.500 |
| Рапс насенны | 15 | тона | 11.000 |
| Глазура шакаладная | 200 | кг | 300 |
| Ікра мінтая ў бляшанках па 140 і 240 г | 2.000 | бляшанка | 14.50—24.00 |
| Печань мінтая ў бляшанках па 140 г і 240 г | 2.000 | бляшанка | 20.75—24.50 |
| Трактар МТЗ-80, новы | 1 | шт. | 220.000 |
| Трактар Т-16М, 1991 года | 1 | шт. | 100.000 |
| Запраўшчыкі ЗЖ В-3,2 | 2 | шт. | 12.000 |
| Сеялка агароднінная СО-4,2 | 1 | шт. | 6.000 |
| Бочка МЖТ-6 | 1 | шт. | 20.000 |
| Цялежкі ТУ-300 | 10 | шт. | 2.000 |
| Вагі ОТ-4014-ІШ | 3 | шт. | 1.500 |
| Аўтагума да ГАЗ-66 | 12 | шт. | 4.000 |
| Стартэры СТ-230, СТ-230Б | 200 | шт. | 2.500—2.800 |
| Карбід кальцыю | 1.000 | кг | 107 |
| Карбід кальцыю ў барабанах па 133 кг | 38 | барабан | 14.630 |
| Цвікі розныя | 3 | тона | 26.000 |
| Дэкаратыўны сухі тынк | 200 | кв. м | 110 |
| Сістэма вадзянога ацяплення | 1 | шт. | 19.000 |
| Электралямпачкі 200 Вт | 500 | шт. | 4,50 |
| Тэрмарэгулятары | 10 | шт. | 1.000 |
| Электрарухавікі 4АМ×90, 2,2 КВт | 10 | шт. | 8.500 |
| Ліст стальны, таўшчынёй 3 мм, размер 1,3×4м | 5 | тона | 29.100 |
| Сталь 0,8 КП, таўшчынёй 2,8 мм, размер 1100×5000 мм | 9,3 | тона | 23.200 |
| Сейфы незгаральныя | 2 | шт. | 4.000 |
| Веласіпеды дарожныя ММВЗ-3111-354 | 50 | шт. | 2.200 |

**Праўленне АТ «Белаграпрамбіржа» інфармуе кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў аб тым, што ў адпаведнасці з пісьмом Мінфіна РБ ад 24.04.92 г. № 13-02/482 калгасы і саўгасы за прадукцыю ўласнай вытворчасці, прададзеную на біржы, не абкладваюцца падаткам на брокерскую дзейнасць.**

**ЖАДАЮЧЫЯ СТАЦЬ ЧЛЕНАМІ АТ «БЕЛАГРАПРАМБІРЖА» НА ЛЬГОТНЫХ УМОВАХ МОГУЦЬ ЗВЯРТАЦЦА ПА ТЭЛ. 77-01-37, 77-07-26.**

**Таргі праводзяцца кожны тыдзень па пятніцах з 11.00 па адрасу: г. Мінск, вул. Казінца, 86, корп. 2.**

РЭГІСТРАЦЫЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ З 9.00.

## Веранiка КАСТРА: Я—Марыяна

**Тое, што не ўдалося ажыццявіць шырокавядомаму К. Марксу з яго не менш вядомым заклікам да аб'яднання пралетарыяў усіх краін, паспяхова робіць мексіканскі тэлесерыял «Багатыя таксама плачуць» і яго гераіня Марыяна. Перайначваюцца расклады і графікі, аціхаюць канфлікты, варта толькі на экране з'явіцца абаяльна-наіўнай Марыяне. Як паведамляе часопіс «Эхо планеты», з-за гэтага фільма кіраўніцтва Малдовы было вымушана ўзнавіць трансляцыю 1-га тэлеканала з Масквы: насельніцтва суверэннай дзяржавы не ўяўляла свайго жыцця без рэгулярных сустрэч з Марыянай. Працаўнікі палёў і ферм запатрабавалі перанесці паказ серыяла на больш зручны час, прадказаўшы, што інакш можа сур'ёзна ўскладніцца становішча з прадуктамі харчавання.**

**Чытач павінен ведаць праўду: у пэўны час пільныя вочы нашых рэдакцыйных карэктараў, напрыклад, прыкіпаюць не да газетнай паласы, а да тэлеэкрана. Ціха ў вытворчых цэхах і кабінетах...**

**СНД, якую ўзрушаюць палітычныя, нацыянальныя і эканамічныя канфлікты, стаіўшы дыханне, глядзіць бясконцы тэлераман. Усяго ў ім 249 серый. Пакуль што мы адолелі прыкладна палавіну дыстанцыі...**

**Прапануем прыхільнікам Марыяны больш падрабязна пазнаёміцца з жыццём актрысы Веранікі Кастра па публікацыях памянёнага вышэй часопіса.**

Нават цяпер, праз 13 гадоў пасля выхаду фільма «Багатыя таксама плачуць», выканаўцу галоўнай ролі Вераніку Кастра ў Мексіцы называюць не інакш як Марыяна.

— Калісьці я ўсур'ёз падумвала аб тым, каб змяніць імя і ў жыцці таксама стаць Марыянай, — гаворыць актрыса, дэманструючы сваю асляпляльную ўсмешку, якая пакарыла гледачоў дзесяткаў краін свету. — А цяпер з пісьмаў, што прыходзяць з Расіі, я даведалася, што мая гераіня папулярная і там. Мне нават прыслалі выразку з рускай газеты. Я, канешне, нічога не зразумела, але захоўваю яе.

З Веранікай мы сустрэліся ў яе офісе, прадастаўленым актрысе па персанальнаму кантракту ў вялікім комплексе мексіканскай тэлекампаніі «Тэлевіса». Хоць ён размешчаны на адной з самых загазаваных вуліц Мехіка, тут амаль не чуваць аўтамабільных гудкоў і рову матораў. Густая зеляніна, штучныя вадаспады, стылізаваныя будынкі. Раскрываеш шкляныя дзверы і апынаешся ў царстве халоднага кандыцыянаванага паветра. Па калідорах бясшумна ходзяць сакратары і сакратаркі. Ля ўваходу ў офіс — вялікая каляровая фатаграфія актрысы з капой рыжых валасоў. Такі яе вобраз сёння, знаёмы мільёнам гледачоў забаўляльных тэлепраграм, якія вядзе Веранiка Кастра. У жыцці ж яна гладка зачэсвае валасы — стыль дзелавой жанчыны. Памяшканне таксама хутчэй падобнае на офіс бізнесмена, чым на артыстычную: мяккія скураныя крэслы, светлая паліраваная мэбля, тэлефон, набіты электронікай.

І ўсё ж у агульнай дзелавой атмасферы прарываецца дух тэатральна-тэлевізійнай багемы, якая прымушае ўспомніць аб назве апошняга дыска Веранікі Кастра, што выйшаў літаральна днямі: «Рамантычная і разважлівая». Акцёрская папулярнасць і прадпрымальніцкі прэстыж Веранікі такія вялікія, што ёй дастаткова паварушыць пальцам з доўгім наманікюраным пазногцем, каб любое жаданне было імгненна выканана паслужлівымі супрацоўнікамі.

**(Працяг будзе).**

## «Доктар», палячыся сам!

### Каго і ад чаго могуць вылечыць карціны Уладзіміра Герасімава?

**Не так даўно сталічны Палац мастацтва запрасіў гледача на сенсацыйную выстаўку мастака з Кіргізіі Уладзіміра Герасімава пад назвай «Касмічны розум». Сенсацыйнасць пачыналася з уваходных дзвярэй, дзе кожны мог пазнаёміцца з аддрукаваным на машынцы «словам» Анатоля Кашпіроўскага, які паведамляў, што карціны Герасімава аказваюць лекавае ўздзеянне. Гэту рэкламу падхапілі некаторыя газеты, і прастадушны ды даверлівы наш народ кінуўся «лячыцца» ў выставачную залу. Гадзінамі людзі прастойвалі ля карцін, арыентуючыся на накрэсленае алоўкам: «сэрца», «кішэчнік», «жаночыя органы» і г. д. Спадзеючыся сустрэць улоўленыя мастаком дзівосныя праявы «тонкага свету», якім даўно займаюся, я таксама пайшла на выстаўку...**

Калі я ўвайшла ў залу, мяне ахапіў жах. Плойма аднастайна фіялетавых сюррэалістычных пачвар пазірала са сцен. Ля «цудатворнай іконы» з — даруйце — учарнелым прахворым жабіным тварам прыцэлелі ногі, сэрца гатова было выскачыць з грудзей.

Каб праверыць свае адчуванні, прыйшлося звярнуцца да прыбораў. Бо як справядліва адзначаў Абд-ру-Шын, «духоўныя памкненні знаходзяць сабе ў рэшце рэшт і фізічнае выяўленне». Шматгадовыя доследы таямніц «тонкага свету» прывялі да высновы, што ў аснове матэрыяльнай субстанцыі, якая ўвасабляе адмоўную энергетыку, ляжыць радыеактыўны газ радон. Каб выявіць утрыманне гэтага газу, мы, атрымаўшы дазвол дырэкцыі палаца, рабілі адбор проб паветра ў розных выставачных залах на працягу некалькіх тыдняў.

Трэба сказаць, што выстаўка Герасімава перапынялася на той час, пакуль тут ішла публічная абарона дыпломных работ выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў. Для параўнання мы зрабілі замеры і на гэтых экспазіцыях. Работы маладых мастакоў (за невялікім выключэннем) маюць станоўчую энергію.

На другім жа паверсе палаца цяпер адкрылася выстаўка маляваных дываноў Язэпа Драздовіча, Аляксея Марачкіна, народных мастакоў. Вось дзе акумулявана светлая духоўная энергія, вось куды можна параіць хадзіць сваім знаёмым.

Вынікі нашых абследаванняў залаў Палаца мастацтва прыведзены ў табліцы. Адзінкі, у якіх праяўляецца энергія гама-квантаў, пададзены ў знаёмых чытачу кюры/км², а другая лічба (бэр за год) падаецца як эквівалент пражывання на тэрыторыі з такім узроўнем заражэння. Дык вось: герасімаўскія карціны ствараюць адмоўнае поле, ідэнтычнае «чарнобыльскаму следу» на мяжы 30-кіламетровай зоны!

XX стагоддзе, апіраючыся на багаты вопыт папярэдніх эпох, магло б зрабіцца своеасаблівым духоўным рэнесансам, стымуляваць чалавека аналізаваць, ствараць сваю сутнасць. На жаль, пануючая ў нас грубаматэрыялістычная філасофія прыпыніла гэта ўзыходжанне чалавецтва да Святла. У выніку сёння яшчэ няшмат людзей правільна рэагуе на такія вечныя паняцці, як Бог, Душа, Духоўнасць, Лёс, Вера. Гэта не проста словы з рэлігійна-маральнага лексікону. Да вывучэння гэтай тонкай субстанцыі («тонкага свету») набліжаюцца і навукоўцы. Успомніць хоць бы доследы нашага славутага земляка Наркевіча-Ёдкі, які зрабіў першыя фотаздымкі біяполя чалавека, прыадчыніў заслону ў той свет, дзе чалавечая сутнасць мусіць правесці асноўнае, бясконца доўгае жыццё.

Людзі, якія па той ці іншай прычыне маюць адмоўную энергетыку, шукаюць сабе апраўданне ў шматграннасці навакольнага свету, у тым, што свет, маўляў, як «плюс» так і «мінус». І ўсё ж гэта самападман, самаапраўданне хібаў, з якімі на працягу стагоддзяў змагалася хрысціянства: «Дух кожнага чалавека ахутаны ў змрочную абалонку зямных жаданняў».

Вось чаму «духі нячыстыя», пра падкопы якіх папярэджвалі айцы царквы, жывуць сёння побач з людзьмі на нашай Зямлі і, зацугляўшы якуюкольвечы падатлівую спіну, імкнуцца зрабіць яе гаспадара сваім сябрам. «Духі нячыстыя» са сваёй адмоўнай энергетыкай з'яўляюцца адданымі служкамі адмоўнай сілы вышэйшага парадку, якую завуць д'яблам.

Асноўная жыццёва неабходная задача чалавека на Зямлі — не паддавацца спакусам цёмных сіл. Наш механізм энергетычных пераходаў вельмі рухомы. Носіць у сабе чалавек добрае, мае веру, удасканальвае сваю свядомасць — яго энергетыка станоўчая. Чым больш інтэнсіўны працэс удасканалення, тым больш моцнай будзе сцяна процідзеяння адмоўным энергіям. Ёсць паратунак і для тых, хто спатыкнуўся, жыве «не так» — наведай святыя месцы, шчыра кайся, прымі належную дозу пакут за подла пражытыя гады...

У сувязі са сказаным вышэй, мне хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу на духоўнасць тых, хто «ідзе да людзей» — мастакоў, журналістаў, палітычных і дзяржаўных дзеячаў. Такія людзі павінны мець толькі станоўчую энергію, велічыня якой з'яўляецца паказальнікам духоўнасці.

**Галіна КАЗЛОВА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік НДІ прыкладных фізічных праблем.**

**ВЫНІКІ ВЫМЯРЭННЯЎ УТРЫМАННЯ РАДОНУ І ПРАДУКТАЎ ЯГО РАСПАДУ НА РОЗНЫХ ЭКСПАЗІЦЫЯХ ПАЛАЦА МАСТАЦТВА**

| Дата вымярэння | Аб'ект даследавання | Адзінкі вымярэння: кюры/км² | Адзінкі вымярэння: бэр/год |
|---|---|---|---|
| 22.06.<br>9.07.<br>10.07. | Выстаўка работ У. Герасімава «Касмічны розум» | 40<br>26<br>33,5 | 6,0<br>3,8<br>5,0 |
| 29.06. | Блок выстаўкі дыпломных работ | 25 | 3,5 |
| 10.07. | Выстаўка маляваных дываноў (замеры зроблены над блокам выстаўкі Герасімава, гл. за 9.07.) | 22,5 | 3,3 |



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах —32-35-91.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 140.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12